

# Камсамольскі Вечар

*Дадатак да газэты „Малады Араты."*
*Воргана ЦККСМБ.* **№ 74—75.** *30 чэрвеня 1924 г.*



* * *

Таварышы! Вось ён, той самы «Камсамольскі Вечар», аб якім мы ўжо шмат пісалі, якога ўжо, мы ведаем, чакае вёска.

Хлопцы! Тут зьмешчаны матэр'ялы, з якіх, калі іх умеючы скарыстаць, магчыма наладзіць добры, сапраўдны камсамольскі вечар.

А зараз я скажу вам некалькі слоў аб тым, як трэба карыстацца зьмешчанымі тут матэр'яламі і якія патрэбны прылады каб добры вышаў вечар.

Трэба зрабіць карту, перамаляваўшы яе па магчымасьці точна в гэтай вось толькі трэба па магчымасьці больш павялічыць яе. Што рабіць з картай скажу далей.

Потым трэба з увагаю прачытаць артыкул як ставіць п'есу які вось ніжэй надрукованы і падрыхтавацца да спэктаклю, так як ён вучыць.

Вось бадай і ўсе прылады да нашага камсамольскага вечару.

Зараз скажам як жа ён павінен праходзіць.

Адзінаццатага, альбо дванаццатага, калі сяляне ўжо будуць апавешчаны аб вечары, прылады зроблены, п'еса разучана, вершы падрыхтованы для дэклямацыі, сэкратар можа быць спакоен, вечар пойдзе добра і вось прыблізна па гэткаму пляну. Адчыняецца заслона.




На сцэне стол. З яго краёў спушчаецца карта ўніз да падлогі, так каб усе прысутнічаючыя яе бачылі сэкратар выходзіць бярэ кніжку «Камсамольскі вечар» і чытае з яе артыкул: «прамова сэкратара ячэйкі» адначасна паказвае і растлумачвае сваю прамову па карце.

Трэба толькі так гаварыць каб ня адчувалася што гэта з кніжкі, а так нібы сам, вось толькі перад вечарам накінуў плян сваей прамовы, ну, пaглядвае на сваю паперку, а не ў кніжку.

Пасьля слова сэкратара зачыняецца заслона і ўстанаўліваецца сцэна для пастаноўкі. Потым ідзе п'еса, якая надрукована таксама ў нашам „Вечары"

пасьля п'есы і перарыву ў 10-15 хвіл'н, у часе якога хлопцы-камсамольцы седзючы разам з сялянамі пяюць рэвалюцыйныя сьпевы, якія таксама тут зьмешчаны, дык вось пасьля гэтага перарыву зноў адчыняецца заслона і хлопцы дэклямуюць зьмешчаныя



ў „Вечары" вершы.

Пасьля гэтага канец. Вось і ўвесь вечар.

1) Даклад.
2) п'еса.
3) сьпевы.
4) дэклямацыя.

Пасьля вечару на сцэну павінен выйсьці абавязкова корэспондэнт ячэйкі і зрабіць гэткае апавяшчэньне.

Хлопцы! у Менску выходзіць газэта сялянскай моладзі «**Малады Араты**» гэта наша газэта. Яна дае матэр'ялы для вечароў сялянскай моладзі; яна абараняе моладзь ад кулакоў; яна робіць моладзь сьвядомай і граматнай.

Падпіска на гэту газэту ў месяц каштуе ўсяго 12 капеяк. Падпісную плату трэба накіраваць па адрасу: Менск, Савецкая 63. Белтрэстдрук. Падпіска прымаецца ў кожным паштовым аддзяленьні.

Ну чаго паразяўляліся, хутчэй пішыце, адрас: Менск Савецкая 63. Белтрэстдрук.





# Як наладзіць вечар-спэктакль.

Зьбіраюцца жадаючыя прымаць удзел у драматычным гуртку—хлапцы й дзяўчата.

Калі ёсьць сярод вас чалавек знаёмы з тэатральнай, працай выбярыце яго рэжысэрам (адпаведным за ход п'есы); калі у вас такога чалавека няма, дык выбярыце каго—небудзь, хто мог бы найбольш удачна весьці пробы (рэпэтыцыі), разтлумачыць п'есу і утрымаць на пробах, у працы, дысцыпліну, (парадак). Лепей усяго каб рэжысэрскую працу узяў на сябе хто небудзь адзін. Ніколі ня будзе добрага спэктаклю, калі у працы ня будзе дысцыпліны, парадку. Кожная праца йдзе лёгка, латва і шпарка як ёсьць парадак. А ў асабліvасьці гэта патрэбна для працы тэатральнай.

Возьмем такі выпадак: вам трэба зладзіць вечар-спэктакль, для якога вы мусіце *прыгатаваць для пастаноўкі п'есу.* Каб зрабіць гэта, вы павінны вылічыць.

1) Колькі у вас усіх людзей у гуртку (каб размяркаваць усю працу),

2) Колькі ёсьць у вас здольных да ігры на сцэне,

3) Колькі ёсьць ужо добра знаёмых са сцэнаю, а таксама ці ёсьць у вас сродкі (грошы), колькі вы маеце часу для падрыхтоўкі, ці маеце ўсе неабходные для ігры прыналежнасьці: грым, вопраткі і г. д.—і ў залежнасьці ад гэтага выбірайце п'есу.

Хай кожны таварыш прапануе п'есу і разтлумачыць, чаму варта ставіць яе, а ня іншую.

Як гэта ўсё абгаворыце і застановіцеся на аднэй якой небудзь п'есе, трэба даручыць рэжысэру пазнаёміцца з ёю вельмі добра.

Калі рэжысэр пазнаеміцца з п'есай, хай разтлумачыць акторам ролі, як іх належыць іграць, якія яны маюць асаблівасьці характару, як трэба тлумачыць і іграць той ці іншы тып.

У абгаварваньні гэтага мусяць прыняць удзел усе супольна.

Тагды ідзе *раздача роляў*

Хай кожан скажа якую-б ролю ён хацеў сыграць: калі такім чынам ролі разойдуцца і рэжысэр з гэтым згодзіцца, дык можна пачынаць пробы.

Калі-б выйшла так, што адну ролю хоча йграць некалькі чалавек, а на другую ахвотнікаў няма, дык справа пераходзіць да рэжысэра.

Ён робіць свае ўвагі, чаму той ці іншы таварыш надаецца да гэтае ролі.

Калі-ж людзей у гуртку шмат і ахвотнікаў хапае на кожную ролю—хай прабуюць рэпэтыраваць усе і хто будзе на погляд рэжысэра лепшым, за тым гэтая роля і застанецца.

Ня трэба рабіць спрэчак за вялікія і малыя ролі. Трэба памятаць што *няма дрэнных роляў, а ёсьць толькі дрэныя актоpы* і кожную маленькую ролю можна сыграць вельмі добра.

Наогул у выпадку спрэчак і непаразуменьняў, апошняе і рашучае слова заўсёды за рэжысэрам.

Пасьля падзелу роляў, каб праца была карыснай, трэба заўсёды ўсім слухацца рэжысэра.

Дапамагаць радай рэжысэру й выказваць свае думкі павіны ўсе, але гэта рабіць ня ў часе самае пробы, а выбраўшы падхадзячую хвіліну.

Рэжысэр мае права ці прыняць пад увагу раду, ці адкінуць яе.

Як ролі будуць раздадзены, трэба каб кожан перапісаў сваю ролю і вывучыў яе. (Вельмі добра калі-б увесь спэктакль ішоў без суфлёра—падказчыка).

Першую пробу рабіць седзючы за сталом: усе чытаюць свае ролі і клапацяцца, каб выявіць тып тае асобы, таго чалавека, каторага хочуць выявіць, паказаць на сцэне. Трэба пробаваць кожную ролю на

розныя лады, каб напасьці на найбольш падходзячы тып. Як гэта будзе зроблена трэба йсьці далей.

Абставіць памяшканьне, дзе йдуць пробы так, як будзе абстаўлена сцэна на спэктаклі, і пачынаць пробы з мізансцэнамі. На ўсе пробы трэба глядзець як на спэктакль. Ня трэба казаць:

«Цяпер я так... з большага..., а на спэктаклі зраблю як трэба...»

Кожную пробу весьці поўным тонам, маючы неабходны рэквізыт,—прыналежнасьці.

У пробах дасягаць, каб усё ўшло лёгка, бяз перапынак; трэба дасягнуць таго, каб самому актору рабілася прыемна ад ігры.

Калі гэта будзе,—значыцца вы на правіловым шляху.

Калі зробіце гэткім чынам некалькі проб, калі ўсё будзе йсьці гладка, рабіце *гэнэральную пробу.*

У вопратках, у грыме зусім так, як гэта будзе на спэктаклі. Запрасіце на гэту пробу некалькі чалавек знаёмых, каб прызвычаіцца да публікі.

Адначасна з пробамі мусіць весьціся другая праца, тэхнічная. Трэба абабраць чалавека (памоцніка рэжысэра), якому трэба даручыць такую працу:

1) апавяшчаць аб пробах.

2) дастаць і паставіць на сцэне належную абстаноўку (стол, крэсла, малюнак і г. д., што патрэбна па п'есе).

3) Прыгатаваць дэкарацыю і паставіць яе на сцэне так, як гэта вам патрэбна.

4) выпісаць з п'есы і прыгатаваць рэквізыт, (рэквізытам завуцца ўсе неабходныя да ігры рэчы, аб якіх успамінаецца у п'есе, напр.: ліст, карандаш, лямпа, хлеб, сала і г. д).

А ў часе самога спэктаклю і гэнэральнай пробы памоцнік рэжысэра павінен:

1) глядзець каб акторы у сваім часе выходзілі на сцэну.

2) даваць загад падымаць і зачыняць заслону.

3) глядзець за сьветам.

Уся праца памоцніка рэжысэра павінна йсьці у сьціслым кантакце і пад наглядам рэжысэра.

Шмат чаго яшчэ патрабуецца ад суфлёра. Ён мусіць мець добры слух, добрую, чыстую мову, і быць уважлівым.

Чытаць суфлёр мусіць ціха, без інтанацыяў, каб яго чулі толькі актары, а ня публіка, бо ад гэтага псуецца ўражаньне.

Дрэны суфлёр і памоцнік рэжысэра могуць папсуць добры спэктакль.

Актор ніколі не павінен граць «так сабе», абы адтарабаніць свае словы, тагды лепш ня брацца за ролі. Іграць трэба старанна, уважліва, з запалам, усякая нехайства будзе заўважана публікай і добрых вынікаў і пасьпеху ніколі ня дасьць.

Трэба зварачваць увагу на чыстасьць мовы, а таксама на яснасьць яе, на вымову (на выгавар), ня можна пачынаць словы голасна, а канчаць шопатам. На сцэне трэба вымаўляць (выгаварваць) усе гукі моцна і выразна. Праз гэта актор гавора не так шпарка як у жыцьці, але застаецца вельмі добрае ўражаньне.

У той час, калі гавара адзін актор, — другі павінен яму не перашкаджаць і не зварачваць у гэты час на сябе увагі публікі. Хадзіць па сцэне ня вельмі шпарка, залішне не размахваць рукамі і галавой, гэта будзе нядобра выглядаць. Але ня можна — не быць і вельмі нярухомым. Імкнецеся да таго, каб на сцэне быць такімі як у жыцьці.

Вось тое галоўнае, што можна парадзіць таварышом, пры іх працы і падрыхтоўцы п'есы і спэктаклю.

***М. Міцкевіч.***





## (Слова сэкратара ячэйкі)



Усебеларускі Стараста
А. Чарвякоў.

Таварышы! я хачу сказаць вам некалькі слоў аб тых-каму мы ахвяруем сёняшні вечар.

Таварышы! Дзень **11-га ліпеня**-гэта дзень сатаварыства нашага камсамолу з камсамолам Літвы.

Ведайце таварышы сваю свабоду мы здолеем абараніць толькі тагды, калі рабочыя й сяляне іншых краёў і ў сябе скінуць уладу бужуазіі і паноў.

Вось чаму мы і павінны дапамагаць рабоча-сялянскай моладзі тых краёў, у якіх яны яшчэ змагаюцца з сваімі ўладарамі.

Павінны, бо рабоча-сялянская моладзь ўсіх краёў мае аднолькавую мэту.

Вось чаму мы сатаварыствуем з камсамолам Літвы, камсамолам, які раней працаваў на свабодзе і разам нават з камсамолам Беларусі, а ў гэты час змагаецца з панамі й ксяндзамі, якія захапілі ўладу ў Літве.

Шмат хто з Вас, я ведаю, чуў аб Літве, але дзе яна знаходзіцца, якія яе гарады, гэта ўжо менш хто ведае.

Вось таму я й пастараюся паказаць і разтлумачыць дзе яна знаходзіцца.

Вось глядзіце на гэту карту (карта павінна быць спушчана уніз ад стала к падлозе, так каб усе яе бачылі.)

Як бачыце з аднаго боку яна мяжуецца з заходняй Беларусіяй, а з другіх бокоў вось з Польшчай, Нямеччынай, а крыху вышэй з Латвіяй.

У склад яе ўваходзяць гарады: Коўна, (сталіца) Шаўлі, Сувалкі, Валкамір і г. д. Літва павінна быць крыху большай, але частку яе зямлі захапіла Польшча. Жыве ў Літве 2 міліёны жыхараў. Літву насяляюць літоўцы, беларусы, жыды, расійцы й палякі.

Жыхары большаю часткай заняты сельскай гаспадаркай. Пры чым батракі, якіх тут 100 тысяч жывуць у ўмовах прыгнечаных рабоў. Працуюць ад зары да зары, нават без перадаху, атрымліваюць за гэта драбязу.

А моладзь не гледзячы на тое, што ўстановлен 8-ёх гадзінны рабочы дзень, прымушаюць працаваць па 10—12 гадзін.

У 1920 годзе канчаткова склалася Літва, дзякуючы нямецкім штыкам як бужуазна-кулацкая рэспубліка.

Барацьбу супроць гэтага ўраду вядзе ў Літве толькі Камуністычная партыя, якая змагаецца за:

1) Рабоча-сялянскі ўрад.

2) за саюз з СССР.

3) Супроць саюзу с панскай Польшчай.

4) за зьнішчэньне ваеннага становішча, накірованага выключна супроць камуністаў—рабочых.

5) за 8-ёх гадзінны працоўны дзень.

6) за абавязковае сацыяльнае страхаваньне рабочых-батракоў за кошт ураду і прадпрыемцаў.

7) за свабоду прафсаюзаў, сходаў, друку.

8) за раўнапраўе нацыянальнасьцяў.

9) за разьдзел зямлі.

Камуністыя Літвы маюць свае газэты «Праўда» інш. на літоўскай і жыдоўскай мове.




Камуністыя маюць вялікі ўплыў на рабочых, сялян і салдат.

У 1918 годзе узьнікае ў Літве камсамол, а ў 1919 калі Літва зрабілася Савецкай камсамол Літвы аб'яднаўся з камсамолам Беларусі.

Але ў хуткім часе пачалося наступленьне белапалякаў. Чацьвёртая частка камсамолу Літвы-пайшла ў вакопы. Упарта змагалася трое сутак. Віленскія камсамольцы змагаюцца з белапалякамі за Вільню.

Вось што піша адзін з удзельнікаў гэтых баёў.

«Ноччу 9-га красавіка 1919 году, дзякуючы зрадзе часткі контр-рэвалюцыйных чыгуначнікаў, атрад панскіх бандытаў уварваўся ў горад. У адну хвіліну камсамольцы са зброяй былі на нагах.

Цяжка сабе ўявіць што было-б, каб хоць на хвіліну мы спазьніліся.

Але мы адразу-ж разсыпаліся у цэп, і на вуліцах гораду закіпеў бой не на жыцьцё, а на сьмерць. Усякі крок каштаваў белагврдэйцам дарага. Мы адступалі толькі пасьля ўпартай страляніны, абліваючы ўсякі крок сваёю й панскай крывёй. Адзін за другім гінулі камсамольцы. Але застаўшыяся яшчэ з большай і нейкай нечалавечай сілай змагаліся. Шмат палягло камасамольцаў. Вільня пала. Літву захапілі палякі. Камсамол перайшоў у падпольле».

Камуністаў, і камсамольцаў праследуець буржуазны Літоўскі Ўрад. Літоўскі таварыш, кіраўнік Літоў-

скага камсамолу тов. Ракаўшчык гэтак і кажа што гісторыя камсамолу, гэта гісторыя ковенскай, шавельскай і др. турмаў. За адзін 1922 год праз турму прайшло 160 камсамольцаў. Часцы з іх ламалі, ў часе пытак пальцы, іншым жалезнымі замкамі прабівалі галовы, іншым выбівалі зубы.

Вось што піша тав. Ракаўшчык, раней працаваўшы у Беларусі у Чэрвенскай арганізацыі, якого пыталі 17 дзён у Жвальгібе (ахранцы)

...«Позна ў вечары мы пачулі штоу дзьверы нехта ломіцца, дзьверы узьляцелі і вайшло десяць жандараў с рэвальверамі ў руках, мяне схапілі, пасадзілі, на аўтамабіль, які чакаў каля хаты і павязьлі да Жвальгібе (ахрану) Пачаў апрашываць сам начальнік. Білі і каталі так доўга, пакуль самі каты не змарыліся. На другі дзень тое самое і так у працягу 17 сутак.»

Таварышы, вось што адбываецца у той краіне, якую я толькі што вам паказваў на карце. Вось што адбываецца ў Турмах Літоўскіх гарадоў: «Коўне, Шаўлях, Сувалках і іншых.

Вось чаму мы павінны дапамагаць нашым замежным маладым братом.

Дапамагаць, дзеля таго, каб хутчэй перакінуць ім волю.

Таварышчы, хай-жа жыве наша сатаварыства з камсамолам Літвы, якое дапаможа яму ў яго барацьбе!

Няхай жыве камсамол Літвы сатаварыш камсамола Беларусі!

Няхай жыве міравы камсамол!





# ПАНАВАНЬНЕ ПАНОЎ.

## Нібы-то жарт

у I дзеі.

Дзеючыя асобы:
Пан польскі, таўсты, з пузам.
Жандар.
Ксёндз, таўсты з пузам.
Пан францускі, таўсты с пузам.
Селянін, закардоннай Беларусі.
Камсамолец.

(Сцэна-граніца,—у адзін бок Польша у другі СССР.—БССР. Стаіць у права з боку паграні́чны слуп з надпісам: з аднага боку „Polska" і намалеван на ёй белы арол, з другога „СССР—БССР" з сярпом і молатам).

I.

**П а н.**

(з бізуном у руках бяжыць на авансцэну, крычыць)
—Мо публічносьць не ве, хто я естэм?
Не ве? (крычыць, махае бізуном) Як то, не ве?
(Фанабэрыцца) Ад можа да можа
Ад Днепра да Віслы
Адзін толькі можа
Хлеб есьці ня кіслы,
Адзін толькі можа
Уладаць мужыкамі- -
Прыродны пан польскі!

Ён пан над панамі, ён роўня з багамі!
Такі пан ёсьць я!
Мне ніхто не раўня.
(Завяртаецца да каго небудзь аднаго з публікі)
Ты там, у пятым што радзе сядзіш,
Што недаваркам гэткім глядзіш?
Можа ня верыш ты мне?
У яго вось спытай аба мне.

II.

**Жандар** (таксама з бізуном).
Хто не дасьць веры, яго мы да „цюпы“!
Што гэта, бунт? Бальшавіцкі настрой?
(да пана) Пане вельможны што маю рабіць,
Каб нам гэтых хамаў прымусьць служыць?

**П а н.**

Вунь, пане ксёндз шлях трымае сюды,
Ён нам парадзіць як выйсьці з бяды.

III.

**Ксендз.**

Дзень добры, яснавяльможны панове!
Як жа-ж панска здароўе?
Чаго так засмучаны, мо' бог на вас угнявёны
Усе глупства, я—ж маю уладу
Грахі даравадь за награду.

**П а н.**

Сядай, пане ксёндз, ды паслухай ты нас.

**Жандар.**

Сядай, пане ксендз, дасі нам адказ.

**Ксендз.**

Слухаю вас мае дзеці.

**П а н.**

Робяцца справы такія на сьвеце
Я, пан прыраджоны, мужыкамі цяпер зьневажоны
Бальшавіцкі настрой у ва ўсіх мужыкоў,

Павагі няма ў іх да нас, да паноў.
Рукі не цалуе,--мяне не шануе,
Шапкі ня здымае—мяне зьневажае
Працаваць не жадае—а толькі гуляе -
Дый кажа ў дадатак!
Ня буду плаціць я падатак!
Што маю рабіць?

**Жандар.**

Мне здаецца іх трэба... (робіць гэст, што трэба ўдушыць).

**Ксендз.**

Душыць лепш ня трэба, ня будзе нам хлеба!
Згубіці ня штука
Без мужыка жыці нам мука.

**П а н.**

Што-ж, распачаць, пане ксёндз?

**Ксендз.**

Міласьць найвышшу я маю ад бога.

**Жандар.**

Ты разкажы аб ёй нам хоць троха.

**Ксендз.**

Стварыў бог зямлю для таго
Каб мужык працаваў на яго!
Ёсьць я намесьнік яго на зямлі,
Дык магу я ад імяні бога сказаць,
Што мужык на паноў мае век працаваць.

**П а н.**

Надта-не разумны зрабіўся мужык
Шмат чаму навучыў бальшавік!
А наогул, то добрая справа!

**Жандар.**

Майму бізуну праца з лева у права
ў карак, у крыж, ды у твар,
Вось мужыку калі будзе ўжо жар
(махае бізуном.)

**Ксендз.** (ціха)

Толькі, панове, трэ, гэтак начаць:
Усіх мужыкоў да касьцёлу прыгнаць,
Я імшу адслужу і прамову скажу,
Што загады я маю ад Езуса Хрыста,
Узяць з іх рублёў, так, на дзьвесьці, на трыста,
Каб даравацъ ім грахі усе чыста,
Будзе гэтак выгодна і урачыста,

**П а н.**

За раду удзячан я пану ксяндзу
(цалуе ксяндзу руку).

**Жандар.**

Усіх мужыкоў бізуном «пасьвянчу»
(Махае бізуном і цалуе з другога боку ксяндзу руку.)

**Ксендз.** (благаслаўляе пана і жандара)

А грошы падзелім на роўныя часткі

**П а н.**

Ды зажывем бэз французскае ласкі.

IV.

**пан Французкі.**

Як гэта грошы дзяліць без мяне?
А хто дапамог вам у апошняй вайне?
Хто дапамог вам аружжам і ежай?
Скуль вы танкі ўзялі, ды гарматы?
Усе я, француз, дапамог вам багаты!
Не, так ня будзе, ня можа так быць,
Справядліва трэ зыскі дяліць.
А не, дык вазьму свае грошы
Аружжа, гарматы і будзе вам горш
Як літоўскі мужык з беларусам злучацца,
Ад панства прымусяць вас адракацца.

**П а н.** (ксяндзу).

То-ж праўда!

**Ксендз.**

Праўда!

**Жандар.**

Праўда!

**П а н.**

Трэ' ратавацца!

**Ксендз.**

Трэ'ратавацца!

**Жандар.**

Трэ'ратавацца!

**П а н.**

Разам з французам.

**Ксендз.**

Разам з французам.

**Жандар.**

Разам з французам.

**П а н.** (у бок, бядуе)

Што-ж будзе з маім бедным пугам
Трэ' падзяліцца з французам.

**Ксендз.**

Глупства, з мужыкоў мы ня трыста
Рублікаў гэтак зьдзярэм мы на тысяча трыста.

**Жандар.**

Ну, што-ж, уваходзь, пан француз
У наш ты хаўрус.

**Ксендз.**

...лікатныя людзі, адзін аднаго разумеем.

**П а н.** (падлабуніваецца)

... сваіх сяброў умеем.

**Француз.**

Вось дос...
Што вы ад... у маю,
Дык будзем з... ...ка:
Я самы сапраўд... ... француз!
Глядзеце: вось гэта

Пабачце, мусью, вось тут намалёваны вус
Вось тут і мянтуз, вось дзе гуз.
Ды й сам не маленькі я туз.
Сам я ёсьць шляхціц, маркіз,
Завуся Гэнрі—Люі—Шарль, гэрцог замку Ґіз
Маркіз дэ-Сьліз
і гэтак далей і гэтак далей...
Мяне сьцеражыся! Ууу! —

**Пан.**

Не фатыгуйся, ня ірытуйся, пане француз!
У мой, у шляхэцкі углядзься ты вус!
Шляхціц сапраўдны ёсьць той
Хто вус такі мае як мой!
Вусы,—то шляхэцка адзнака ды гонар,
Ня роб нам тут гоман,
Адразу відаць, што большага пана як я, не спаткаць.

**Ксендз.**

Эх, панове, як на тое пайшло,
Дык тут мае пяршынство!
—Я божы намесьнік.

**Француз.**

Не, не, я ня згодзен,
Я, пан найвялікшы, дый годзі
Зараз аддайце маю мне пазыку
Ад вас я у хвілі той зьнікну.

**Жандар.**

Ша... ссс... здаволю я зараз усіх,
Мусью француз ты ня злуй
Ды й ты панок ня іруту
Усе мы паны, нават
Па майму разумен ска адзнака тая,
Маеш магчымас куры драць з мужыка—
Вось і адзнак
Француз ты , паляк ці латыш,
Панска д —лупцуй мужыка,
Да пот , а мужык на цябе зарабляй

Дык кіньма мы сваркі ды звадкі
Аднэй дзеці маткі,
І будземо жыць мы у згодзе.

**Усе**

Віват! Хай жывуць грошы!
Хай жыве сындыкат—
«Лупцуй мужыка»!

## V.

**Селянін.**

Куды гэта тратіў? Што за кумпаньня?
(разглядае паноў)
Ух ты, што за пуза? Ці у сьне гэта бачу усё я?
Эх, каб гэткая мне сьвіньня!
Гэта—ж на сала было бы кілбас.

**Жандар.**

Што гэта бунт? Сядзяць тут паны,
Ён жа з лапцямі прэцца сюды
Гэтак смуродам лапцяў сваіх
Ты можаш усіх нас ўдавіць.

**Селянін.**

Колькі год жыву я на сьвеце,
А ня ведаў бач—глядзеце:
Шо нос мужыцкі ня тое што панскі...

**Жандар.**

О, гэта бунт! Кінь размовы ты хамскі.
Мусіш жа ведаць, паны ня ўважаюць мужыцкага паху!
Прэч выбірайся, а то я задам табе жаху.
(б'е бізуном)

**Селянін.**

Што ты паночак завошта?

**Пан.**

Мабыць ня знаеш, з кім размаўляеш?

**Селянін.**

Праўду сказаўшы, дык не!

**П а н.**

Ты абражаеш мяне,
Ёсьцека пан я над усімі хамамі,
Над мужыкамі, і над усімі іншымі панамі.

**Селянін.**

Што вы пазадралі насы?
Пан жа і я! Пан сахі ды касы!

**Француз.** (пану)

Ці можна гэткія жарты дазволіць?

**Ксендз.**

Зьнявага, богу абраза ад гэтакіх слоў!
Ці я цябе ня вучыў, каб пану ты верна служыў!

**Жандар.**

Зараз дамо яму мы асьвету
Бізуна закаштуе, ня убача ён сьвету!
(б'е селяніна, той бароніцца й выходзе.

VI.

**П а н.**

Вось дык падзяка за ласку маю!
Самі-жа гляньце панове. Яго бараню я ад
ворагаў усіх!
Каб лепей жылося яму і вальней,
Ды каб панства было бы мацней,
Паліцыю трымаю, жандараў...
Яны дабрабыты яго сьцерагуць.

**Француз.**

Як гэткая ліха і мне абмінуць?
Маім мужыкам гэтак сама
Зямлі зрабілася мала.

**Ксендз.**

Не, гэтак ня можна, ня можна!
Трэ' мужыка падвучыць, падцягнуць
Каб ведаў як гутарку з панам вядуць.

VII.

**Жандар**. (углядаецца)

Гэй хто йдзе! Стой, і ня з месца!

**Ксендз.**

Граніца над бокам, тут небясьпечна!

**П а н.**

То бальшавік вядзе сваю раць.

**Француз.**

Ой, ой трэба ўцякаць.

**П а н.**

То бальшавік! Панове „до лясу.“!

**Жандар.**

Панове, чакайце!

**Француз.**

Не маем мы часу.

**Ксендз.**

Панове, хутчэй усе «до лясу»!

**Жандар.**

Панове, то толькі карова!

**У с е.**

Якая карова?

**Жандар.**

Рудая!

**У с е.**

Рудая карова!!

**Француз** (удае х[illegible]ага)

Шчасьце яе што гэта карова
Я ўжо думаў, што вораг ліхі
Ну, мысьлю, галаў сваю беражы

**Ксендз.**

Адкуль-жа карова?

**Жандар.**

Таго мужыка, я так мысьлю, панове.

**П а н.**

(паважна)
За тое што у часе нарады
Яна перашкодзіла нам,
Яе трэ' схапіць, у турму посадіць!

**Ксендз.**

Можа лепей забіць.

**Француз.**

Можна на гэтым яшчэ зарабіць.

VIII.

**Голос селяніна.**

Цёлка, цёлка, цёлка!
(селянін уваходзе)

**П а н.**

Дык гэта карова твая? А паства мая!
Ты карову ганяў, а дазволу ня браў?

**Селянін.**

Не!

**Пан.** (да жандара)

Бізуна па сьпіне

**Жандар.**

У момант адзін: (да селяніна)
Нагавіцы скідай! не трацьма гадзін!

**Селянін.**

За вошта паночкі! ці вінен я ў тым,
Што карова апынулася ў полі чужым.

**Паны.**

Лупцуй, не зважай!
Тры скуры з хама зьдзірай.
(Жандар зьбіраецца біць селяніна,
уваходзе з савецкага боку камсамолец).

IX.

**Камсамолец.**

Стой, біць ня сьмей!
А ты, братка, устань, досі зьдзеку цярпець!
Прост ідзём мы да нас, урачысты б'е час!
Трэба шчасьце, жыцьцё будаваць,
У нас Беларусі селянскай, савецкай,
Адпачынак мы знойдзем ад паліцыі эндэцкай,
Ад зьдзекаў, прынуды пагрозы
Кінь плакаць, ліць сьлёзы
Твой кут зруйнаваны, пад сьцягам чырвоным
паўстане ізноў!
Хоць я малады, камсамольцам завуся,
Хоць можа яшчэ я вучуся,
Але клічу да нас, будзем мець там адказ,
Што рабіць з гэтым панскім адродзьдзем,
(бярэ за руку селяніна, ідуць у БССР.)
(Паны стаяць, як аслупеўшыя).

Пауза.

X.

**Француз** (ціха)

Што гэта за птушка такая?

**Ксендз.**

Ня птушка, а бальшавік!

**Пан.**

Панове, мы гінем!

**Усе.**

Божа зьмілуйся!!!

**Жандар.**

Ну пэўна што згінем, як гэтак пакінем,
Трэ' ратавацца хутчэй!

**Ксендз.**

Узбраяцца ямчэй.

**П а н.**

Шаноўны, пане француз,
Як ты ужо ўвайшоў з хаўрус,—
Дык напамож нам хоць троха,
Засталася адна нам дарога
Вайна!
Таго будзе змога і перамога
Хто болей аружжа мець будзе.

**Француз.**

Што-ж можна, манету гані, усе будзе.

**Пан** (да ксяндза)
Пазыч!

**Ксендз** (да жандара)
Пазыч!

**Жандар** (ксяндзу)
Няма!

**Ксендз** (жандару)
Няма?

**П а н.**

Што рабіць? Ага, здагадаўся!
Ну добра, мусью! Толькі выграй справу маю!
За ружжо дамо мы карову.

**Француз.**
Якую?

**П а н.**

Ды хоць якую! якую захочаш!
У мужыкоў набярэм колькі хочаш,
Як зможам, бальшавікоў пераможам,
Кароў пазганяем, за кожна ружжо па карове!
А лесу, мы ведаш сам,
у Меншчыне ёсьць іх багата,—
За танкі гарматы ды бомбы
Увесь да сябе забяром мы да хаты,
Я ж з панам ксяндзом, мы як небудзь зьяркуем,
Нявыгоды сабе не гатуем.

**Жандар.**

Панове! запомнілі вы аба мне!

**П а н.**

Табе мы мужыцку зямлю аддамо
Ты сядзеш на ёй—будзем жыць,
А мужык на цябе усё рабіць,
Так згода, панове?

**У с е.**

Згода!

**П а н.**

І так-жа наперад на Менск, на Смаленск на Маскву
Па мужыцку карову, сьвіньню!

**Француз.**

Наперад, на Менск, на Смаленск, на Маскву па мужыцку, карову, зямлю!

**Ксендз.**

(Тое—самае)

**Жандар.**

(Тое –самае)

(Усе выстраіліся і маршыруюць на сцэне сьпяваючы, Сьпяваюць з запалам, з ваяўнічым выглядам).

**Усе** (сьпеваюць)

Мы ідзем на Менск,
Будзе наш Смаленск
Мы Маскву вазьмём,
Сыбір адбяром
Усіх кароў, сьвіньней,
і курэй, гусей
і лясы, зямлю
адбярэм.

XI.

**Селянін.**

Што за гармідар падняўся у вас?
Гайда, прэч адсюль, паветра ня псуй,
Прэч з зямлі маей, тугою узаранай, крывёй паліванай,

(Паны перапалоханыя, стаяць ціха)
Гэй братцы-дарадцы з савецкага боку
Сюды на падмогу...

(Чуваць сьпеў грамады)

«Ад веку мы спалі».

**Усе.**

Панове „до лясу.“

**Селянін.** (падае руку камсамальцу які прышоў з грамадой)

Гэтае панства, душы пузыр
Нашкоду ня ведаў таго я раней!
Дзякуй, таварыш, мяне навучыў!

(Сьпеў)

„Ад веку мы спалі“ або
«Інтэрнацыянал»

*Заслона.*

**Фабіян Грэх.**



# Вершы для дэкламацыі.

*М. Чарот.*

## Барацьбітом Захаду.

Хвалі Нёмну шэпчуць Вісле
Шэпчуць грозна і бурліва,
Што над краем маўчалівым,—
Хмары чорныя павісьлі...
Што ў крыві загон мужычы,
У крыві і ранах—межы...
Прытуліць к сабе ўсіх кліча
Маці--пушча Белавежа...
Слухай, Вісла, будзь сястрыцай
Змый ты чырваньню да званьня
Зьдзек, нясшчасьце... Хай паўстаньне
Уздымае працы рыцар.
Зашумелі Віслы хвалі,
Аж цалуюць пабярэжжа...
Нёмну—брату адказалі.
— Змыем, змыем хутка межы
Шквал чырвоны мае сілы
Рваць слупы з жывога цела,
Каб прыдушаным, пахілым
Воля промнем мільгацела...
Толькі трэба хвалям зьліцца,
Стаць шалёным акеянам...
Смугу—крыўду змыць з зямліцы,
Таго краю, што забраны.
І пад шопат хваль чырвоных,
Хто паўстаў—на ўсход глядзеў ён
Сьпеў чуваць... Замоўклі стогны...
Сонцам выплыла надзея...
Бо над Нёмнамі над Віслай
З веку ў век жыве панурым...
Хмары чорныя навісьлі...
Гром грукоча--будзе бура!

*У. Дубоўка.*

## „Ой, ды не звані крыніца!“...

Ня жук папоўз, ня жучок па лазе,—
то ў полі, полі хлопчык на вазе.
Хлопчык, хлопчык мой маленькі
Хто цябе ў самоце кінуў?—
—Но, мой конік, но, вараненькі,
забаронуем дзесяціну.
Адгукніся, хлопчык мой маленечкі,
дзе твой бацька, дзе твой тата маладзенечкі?
— Ой, ды не звані крыніца па каменьні
мой татуля праз паноў загінуў.
— Но, мой конік, но, вараненькі
забаронуем дзесяціну.
Ой, ды ты звані, крыніца, па каменьні,
пад'ядай крыніца панскія карэньні.
— Гэй, заплацім пану мы за сьлёзы
гэй за дзеда, за бацьку, за сына!
— Но мой конік, но, вараненькі
зазелянее дзесяціна.

*Анатолі Вольны.*

# Палём Захаду.

Ой, ды там-жа, хто вёскі ратуе,
Нэрвам з дроту ад нас адмяжованых...
Ой, ды там жа—хто іх шануе,
Ну хоць простымі, добрамі, словамі—
Там таксама ёсьць камсамольцы,—
Не адзін з іх пасьпеў загінуць.
Трэба двойчы званіць у кавадлы,
Каб волю туда перакінуць.
Ў нашам сэрдцы помста—ня згіне!
Эй, адплацім мы панскім—пагрозам!
А пакуль:—„у парадку камсамольскай
дысцыпліны“,
Наш павінен халодным быць, розум...
Ой, ці стрымаць нас драцянымі гольлямі,
Міг, і сэрдца ў полымі—знова!
І няспыняныя думкі вугольлямі
Мігацяць у гарачых галовах.
Пакуль што бывайце палацы
Тслькі помніце—наш наказ:
Ой, паны, прыдзе час расплаты,
„Ой, паны, будзе гэтакі час!“

*А. Александровіч.*

## Падпольлю.

Там! у глухім сутарэньні,
Камсамольцы выкоўваюць Волю...
—Прынясе, прынясе вызваленьне
Камсамол Беларусі-падпольлю!

———

Падпольле—дзіця рабочых;
Точыць нож, зараджае наган.
Стальлю звоніць друкарня ноччу,—
Піша сьмелы паўстаньня плян.

———

А на вуліцах панская варта;
Ня нырне ў сутарэньне жыцьця!
Ён няведаець, што там не на жарты,
Змагаецца волат—дзіця!

———

Зможам мы, паншчыну, зможам!
Сьмерць прыгорне яе ў свой прыпол.
Без дарогі пашле ў падарожжа
Размахнуўшысь з пляча,—Камсамол!

## Камсамольская песьня

### МАЛАДНЯК

(Маладая Гвардыя)

Сьмялей! Зару спаткаем
Сябры у барацьбе!
Карцечай і штыкамі
Пробьём мы шлях сабе.
Шчыльней рады! На новы шлях
Вышэй юнацкі вольны сьцяг
Мы маладняк бунтоўны
Рабочых і сялян!

---

Мы паднявольнай працы
Спыталі ўсе прыгон
І радасьці ў юнацтве
Ня ведалі мы дзён.
Ў пакуце вечнай несьлі мы
На душах цемры кайданы
Мы... і г.д.

---

Пад гоман звонкай сталі
Лілі мы пот і кроў
І шчасьце мы кавалі
Для банды гандляроў.
Але прыгон, што нас душыў
Барацьбітамі нас зрабіў,
Мы... і г. д.

---

На бой з гвалтаўнікамі
Сябры! За намі ў сьлед!
Мазольнымі рукамі
Мы створым новы сьвет.
За намі ўсе! Гартуйце сталь!
Сьмялей! У сонечную даль!
ў бой, маладняк бунтоўны
Рабочых і сялян!

# ЗЬМЕСТ

## „Камсамольскага вечару“.



## Вершы для дэклямацыі.



## Камсамольскія песьні.



---

Глаўлітбел № 3344 2-ая Дзяржаўная друк.-літ. Менск.